# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№7 (242)

ліпень 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


**У НУМАРЫ:**






## ПЕРАКЛАДНІЦКІ ПРАЕКТ #FREEALLWORDS ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ АБВЯШЧАЕ НАБОР ПРАЦ

Еўрапейская рада пісьменнікаў (European Writers' Council (EWC)) распачынае праект #FreeAllWords дзеля падтрымкі ўкраінскіх і беларускіх аўтараў, якія працягваюць займацца творчасцю ва ўмовах расійскай ваеннай агрэсіі на тэрыторыі Украіны і жорсткага падаўлення свабоды слова і самавыражэння з боку беларускай дзяржавы.

Галоўная мэта #FreeAllWords – даць удзельнікам праекта пляцоўку, з дапамогай якой яны змогуць распавядаць еўрапейскай аўдыторыі пра падзеі ў сваіх краінах, мець магчымасць быць пачутымі ў грамадствах, якія не ведаюць, што такое вайна, рэпрэсіі і дыктатура.

“Мы хочам пабудаваць мост свабоды слова, дэмакратыі і ўзаемаразумення паміж аўтарамі, культурамі, народамі і мовамі. Нашым калегам ужо не патрэбныя адкрытыя лісты, але ім патрэбныя друкаваныя радкі, хвіліны эфіру і анлайн-фарматы, каб распавесці сваё гісторыі і пратрансляваць сваё асабістае бачанне таго, што адбываецца. Менавіта таму мы арганізуем гэту адчувальную дапамогу”, – адзначае Ніна Георге, пісьменніца і Старшыня Еўрапейскай рады пісьменнікаў EWC.

На сайце #FreeAllWords будуць публікавацца творы ўкраінскіх і беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на многія мовы Еўропы. Усяго плануецца зрабіць пераклад не меней за 100 твораў (тэксты, эсэ, інтэрв'ю, вершы), усе працы будуць размешчаны на сайце праекта ў адпаведнасці з нормамі аўтарскага права. Таксама творы будуць друкавацца ў прэсе і размяшчацца на некамерцыйных партнёрскіх рэсурсах той краіны, на мову якой здзейснены пераклад.

Праект запрашае да ўдзелу беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, а таксама перакладчыкаў на еўрапейскія мовы!

Праект #FreeAllWords дасць магчымасць аўтарам размаўляць і быць пачутымі, нягледзячы на ўвесь жах вайны і рэпрэсій, дапаможа еўрапейскай аўдыторыі праз творчасць пісьменнікаў яшчэ больш даведацца пра Украіну і Беларусь.

Калі вы перакладчык, дашліце сваё кароткае рэзюмэ на адрас з пазначкай “перакладчык/перакладчыца”: contact@freeallwords.org

Калі вы паэт ці празаік, дашліце вашыя тэксты (не болей за 7 тысяч знакаў з прабеламі) з пазначкай “аўтар/аўтарка” на адрас: contact@freeallwords.org

У першую чаргу будуць разглядацца тэксты, якія адпавядаюць тэме праекта і на якія аўтар валодае эксклюзіўнымі правамі. Адбіраць тэксты да ўдзелу ў праекце будзе спецыяльная камісія #FreeAllWords, якая складаецца з прадстаўнікоў пісьменніцкіх і перакладчыцкіх арганізацый.

Да ведама: Еўрапейская рада пісьменнікаў (European Writers' Council (EWC)) – федэрацыя, у якую ўваходзяць 46 пісьменніцкіх і перакладчыцкіх арганізацый з 30 краінаў Еўрасаюза, а таксама Беларусі, Ісландыі, Нарвегіі, Турцыі і інш. Агулам Рада прадстаўляе інтарэсы каля 160 000 аўтараў, якія ствараюць тэксты на 31 мове.

Партнёры праекта: Федэрацыя еўрапейскіх асацыяцый літаратурнага перакладу (Federation of European Literary Translation Associations (CEATL)), Аб’яднанне аўтараў і перакладчыкаў Швейцарыі (Authors and Translators of Switzerland (A*dS)), Саюз пісьменнікаў Нарвегіі (Forfatterforbundet).

Кантактная група праекта #Freeallwords – contact@freeallwords.org

Кантакт для медыя:

Susanne Tenzler-Heusler, press and media officer, events, and book section, +49 173 378 6601, media@freeallwords.org.

**школа**

# У ВАРШАВЕ АРГАНІЗУЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ШКОЛУ: ЗАПРАШАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ І ВЫКЛАДЧЫКАЎ

Ініцыятыва "Беларуская школа ў Варшаве", у якую ўваходзяць прадстаўнікі ліквідаванага ў Беларусі "Таварыства беларускай школы", набірае дзяцей і выкладчыкаў у 5–11 класы. Плануецца анлайн-навучанне і некаторыя мерапрыемствы афлайн.



Беларуская школа ў Варшаве прапануе дадатковыя заняткі-кансультацыі (3 дні па 2 урокі) да польскай школьнай праграмы: беларуская і руская мова і літаратура, гісторыя і культура Беларусі. Мэта – каб дзіця, што навучаецца за мяжой, не адставала ад праграмы беларускай школы і магло, экстэрнам здаўшы іспыты, атрымаць беларускі атэстат. Школа будзе таксама выдаваць уласныя пасведчанні, ведамасці з адзнакамі. Плануецца, што ў класах будзе па 10–15 чалавек.

Аўтар праекта, старшыня ліквідаванай у 2021 годзе грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай школы" Алесь Лозка паведаміў: "Будуць выкладаць добрыя настаўнікі. З часткай ужо ёсць дамоўленасці, а частку яшчэ шукаем. Плануем запрасіць навукоўцаў, якія ўжо маюць вопыт працы з дзецьмі ў Беларускім гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа. Асабліва трэба філолагі, спецыялісты па беларускай і рускай мовах. Таксама гісторыкі, выкладчыкі сусветнай мастацкай культуры. Географы ўжо ёсць у камандзе. Разлічваем у першую чаргу на настаўнікаў, якія з'ехалі з Беларусі, але хочуць застацца ў прафесіі. У асноўным навучанне будзе праходзіць анлайн. Але як жа без афлайн-сустрэч? Некалькі разоў на год трэба пабачыцца..."

Алесь Юр'евіч паінфармаваў таксама, што ў Школу запісваюцца і дзеці, якія вучацца ў Беларусі, але хочуць паглыбіць свае веды.

Праект ужо падтрымалі Беларускі моладзевы хаб у Варшаве, Клуб каталіцкай інтэлігенцыі і Музей Вольнай Беларусі. Некаторыя мерапрыемствы Школы, кшталту ўрачыстага адкрыцця навучальнага года, магчыма, будуць адбывацца ў іх памяшканнях.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць праз е-мэйл aziarczuk@gmail.com.

**Алена Ляшкевіч, budzma.org**

# BELARUS FREE THEATRE ЗЛАДЗІЎ ПАКАЗ СПЕКТАКЛЯ ДЛЯ ЎКРАІНСКІХ УЦЕКАЧОЎ



Менеджарка тэатра Святлана Сугака распавяла пра падзею:

"Нам прыйшоў запыт на некалькі ільготных альбо бясплатных квіткоў ад жанчыны, якая займаецца ўкраінскімі бежанцамі. Але на спектаклі ўжо быў sold out. Вырашылі сыграць для іх у свой выходны.

Потым мы ўбачылі спіс тых, хто прыйдзе. Там былі толькі жаночыя імёны. У галаве праскочыла пытанне: "Дзе іх мужчыны?" Адказ відавочны – яны на вайне. Тады я зразумела, што гэта будзе незвычайны спектакль. Так і атрымалася.

Нарэшце, з моманту нашага ад'езду з Беларусі, мы гралі для сваіх гледачоў. Не патрэбен быў перакладчык: спектакль на беларускай мове і трасянцы – украінцы выдатна разумеюць нас. Яны смяюцца з нашых жартаў, плачуць ад нашых гісторый. Спектакль пра вайну. Тую, якая была. Ці тую, якая ёсць. Некаторыя выходзяць у слязах з залы, даюць сабе другі шанц, але зноў выходзяць. Занадта блізка і балюча.

Гэта быў самы важны спектакль з серыі. Мы былі разам са сваімі людзьмі".

**Паводле @BelarusWithUkraine**

**музей**

# У ВАРШАВЕ АДКРЫЎСЯ МУЗЕЙ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ

У музеі можна пабачыць экспанаты, якія нагадваюць пра беларускі супраціў. Напрыклад, вясельную бчб-сукенку і бчб-сцяг з імёнамі паітвязняў.

Музей Вольнай Беларусі адкрыўся на вуліцы Фоксаль (Foksal), 11 у Варшаве 17 ліпеня. Ён размясціўся ў гістарычнай камяніцы ў цэнтры польскай сталіцы. Дом мае два ўнутраныя дворыкі.

Падчас адкрыцця там выступілі Варшаўскі Вольны Аркестр, 23.34 Band, купалаўцы, Уладзімір Пугач з гурта J-Mors, прайшла вечарына Школы беларускай традыцыйнай культуры, адбыліся іншыя мерапрыемствы. Можна было напісаць лісты палітвязням, набыць беларускія кнігі, пакінуць надпіс на сцяне памяці, павязаць бчб-стужкі на імправізаваны плот.

Выставачная прастора складаецца з асноўнага вялікага памяшкання і двух меншых. У галоўнай залі да 17 жніўня будзе экспанавацца інсталяцыя Ігара Цішына "Дом, у якім разлятаюцца сцэны. Паміж двума імгненнямі". Інсталяцыя прысвечана паняццю "дом", які ў гэтым выпадку разумеецца шырока: "Не толькі і не столькі як архітэктурнае збудаванне, але і як краіна ў цэлым.

Усе фрагменты сцэн, інтэр'ераў, самі жыхары гэтай прасторы ўзлятаюць, як пасля ўздзеяння тагасветнай сілы або стыхійнага бедства. Мастак прапануе гледачу апынуцца паміж двума імгненнямі – узлёту і прызямлення, – націснуць на кнопку пульта "паўза" і затым – "рэверс", калі абломкі абавязкова збіраюцца ў новы Дом", – паведамляецца ў апісанні выставы.

"Калі паглядзець на працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі, – то гэта самаразбурэнне, блізкае да глабальнай катастрофы. Самагубства дыктатуры імкнецца тапіць за сабой і іншых: забіваецца час, забіваецца мінулае, забіваецца будучыня, забіваюцца людзі. Дом разлятаецца ў трэскі, але з вуснаў урада і электарату гаворыцца пра татальную стабільнасць. Гэта можна было б назваць своеасаблівай "Стабільнай катастрофай", – даведваемся мы далей пра канцэпцыю інсталяцыі.

У меншым выставачным пакоі экспануецца сукенка "бчб-маладой" Іны Зайцавай (ужо другая, першая была канфіскаваная і засталася ў гарадзенскім РАУСе); барабаны, на якіх Васіль Грудовік (верагодна, загінуў, абараняючы Украіну) граў на вуліцах Варшавы; бчб-сцяг з імёнамі палітвязняў, які зрабіла з прасціны актывістка Марыя Грыц; цішоткі і налепкі з пратэснымі надпісамі; адна з прац Вольгі Якубоўскай; творы іншых мастакоў на пратэсную тэматыку.



Сцяг з імёнамі палітвязняў, які зрабіла Марыя Грыц



Кніжны кірмаш

Плануецца, што музей будзе працаваць кожны дзень, акрамя панядзелка, але лепш удакладняць інфармацыю ў сацсетках праекта.

**Алена Ляшкевіч для budzma.by**

**вайна**

## ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**

**2. Збор сродкаў у Польшчы**

**3. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**

**4. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**

строі

# Воля Дземка: чым больш якарочкаў беларускасці, тым прасцей сказаць сабе і свету: мы ёсць

Як беларуска з ЗША збірае і захоўвае традыцыйныя народныя строі.

Нядаўна ўбачыў свет альбом "Беларускія традыцыйныя строі": збор вельмі прыгожых аўтэнтычных касцюмаў з розных рэгіёнаў краіны. Адметнасць яго ў тым, што аўтарка і ўкладальніца Воля Дземка – беларуска, прадзюсарка і рэжысёрка, якая жыве ў амерыканскім Сіэтле.

Менавіта там фізічна знаходзіцца немалая калекцыя ўбораў, якія Воля ўпарта расшуквае і набывае за ўласныя грошы на аўкцыёнах, далікатна рэстаўруе і марыць перадаць у музей, каб убачылі ў жывым дасягу ўсе ахвотныя.

Яшчэ адна, важная для разумення, акалічнасць. Воля не любіць пра тое казаць, аднак ужо некалькі год яна змагаецца з цяжкім аўтаімунным захворваннем. І ўсё гэта – складанне камплектаў, максімальна набліжаную да арыгіналаў рэканструкцыю адсутных элементаў, тонкі рамонт карункаў і вышыўкі, падбор караляў і гузікаў, здымкі мадэляў – яна робіць літаральна ў перапынках паміж сеансамі "хіміі". Робіць, можна сказаць, насуперак усяму таму, што адбываецца. Яна называе гэта "лекавацца прыгажосцю".

Пра супрацьстаянне "паўзучаму імперыялізму", ратаванне беларускіх і ўкраінскіх народных строяў і мару стварыць музей народных касцюмаў Воля распавяла ў інтэрв'ю.



Фота: volyadzemka.com

### Устаць і працаваць, без варыянтаў

– Гэта ўжо другое выданне альбому – поўнакаляровае, дзвюхмоўнае, на 140 старонках у паперы і электроннай версіі. Першы варыянт, які мы выпусцілі ў 2021 годзе, – больш каталожны, проста паказаць, што назбіралася ў калекцыі, – гаворыць дзяўчына.

З 2009 года разам з іншымі ўдзельніцамі фолк-гурта VOLYA яна выконвае ў ЗША старажытныя беларускія песні, за свае грошы зладзіла этнаграфічную экспедыцыю і зняла пра іх фільм, а яшчэ сабрала адну з найбуйнейшых па-за межамі краіны прыватных калекцый аўтэнтычных строяў.

Пачалася гэтая гісторыя з неглюбскай кашулі, набытай на eBay пад выглядам "рускай". Цяпер у калекцыі 234 прадметы адзення і аксэсуары, што складаюць больш як 30 святочных убораў XIX-пачатку XX стагоддзя (у асноўным жаночых, але ёсць і некалькі мужчынскіх камплектаў).

– Альбом я рыхтавала больш асэнсавана, падбіраючы ўборы цалкам з канкрэтных рэгіёнаў – і пасікі, і вянкі (іх у Беларусі амаль няма, то замаўлялі ў майстрых, штосьці рэканструявалі самі). То-бок, гэта сур'ёзная, глыбокая і працаёмкая рэч, – тлумачыць Воля.

Папярэдняя версія выдання зайграла, дзякуючы мадэлі, Жэні – зводнай сястры Волінай хрэсніцы. Строі маленькіх памераў выдатна селі на дзяўчыну-падлетка, і адразу ператварыліся з музейных экспанатаў у частку народнай культуры – жывую і прыгожую. А ўжо колькі было пытанняў, ці ёсць у дзяўчыны жаніх…



Кіеўскі строй. Фота volya.weebly.com

З другім альбомам атрымалася інакш. Праз шэраг абставінаў Жэня змагла далучыцца да працы толькі часткова. І тут цудам зраслося – шукаючы ў амерыканскіх агенцтвах мадэляў ("яны ўсе вельмі прыгожыя, вачэй не адвесці, але ўявіць іх у беларускай кашулі немагчыма"), Воля згадала пра беларусаў Антося і Дашу Слабаду – мужа і жонку. Абодва з Мінска, але зараз таксама жывуць у Сіэтле. Дарэчы, працавалі бясплатна – сказалі, што гэта іхні ўнёсак у захаванне беларускай культуры.

Макет альбому быў перададзены дызайнеру 23 лютага. І невядома, ці ўбачыў бы свет, бо ў жудасных рэаліях вайны падавалася бессэнсоўным штосьці казаць пра беларускую культуру.

– Прыйшло 24 лютага, і ў нас ва ўсіх зноў, як у жніўні 2020-га, забралі паветра, – успамінае Воля. – Але, напэўна, з-за таго, што мы жывем у стане пастаяннага стрэсу гэтыя два гады, вярнуцца да працаздольнасці ў беларусаў, на мой погляд, атрымалася хутчэй.

Бо мы проста ўжо ведаем, як упасці так, каб потым ускочыць і рушыць далей, і не маем часу, каб сядзець і займацца самашкадаваннем – трэба ўстаць і працаваць, без варыянтаў.

Так, выдаваць альбом зараз было дзіўна. Нават у галаве не ўдавалася скласці нейкі канцэпт – як адцягваць увагу людзей ад дапамогі ваярам, уцекачам, падтрымкі іншых важных праектаў. А потым, асабліва пасля таго, як у Беларусі пачалі закрываць недзяржаўныя выдавецтвы, цкаваць

беларусаў за беларускасць – тут якраз шчоўкнула, што любы крок да таго, каб захаваць беларускасць, не даць ёй растаць у той цемры, якая нас захлынае, гэта менавіта тое, што мы можам рабіць, калі іншыя магчымасці абмежаваныя.

Беларускія строі – гэта тое, што я люблю і раблю добра. І калі Алена Дзянісава дарабіла макет, канчаткова склалася адчуванне: трэба выпускаць. Бо чым больш якарочкаў беларускасці, за якія можна зачапіцца, тым больш шансаў напомніць самім сабе і свету: мы беларусы, мы ёсць.

Так, вайна працягваецца, і мы не ведаем, ні колькі яна працягнецца, ні што будзе ў выніку. Пакуль ёсць магчымасць, пакуль не "зачысцілі" ўсё ўшчэнт і беларуская мова яшчэ не забароненая – трэба рабіць.

## Адказ на шматвяковую гвалтоўную русіфікацыю

У калекцыі цяпер ёсць і ўкраінскія строі – іх ужо 17 (106 прадметаў), і некаторыя ўдалося ўратаваць амаль што цудам. Украінская дыяспара ў Сіэтле загарэлася ідэяй сабраць сумесную беларуска-ўкраінскую выставу і прапанаваць яе мясцоваму музею мастацтваў.

Даследчыца, дактарант кафедры славянскіх, усходнееўрапейскіх і еўразійскіх моў і культур Каліфарнійскага ўніверсітэта Саша Рэйзар з дапамогай журналісткі і пісьменніцы Тацціяны Замiроўскай падрыхтавалі Mission Statement – навукова-папулярнае тлумачэнне, чаму фальклорны гурт VOLYA і ягоныя праекты цяпер асабліва важныя.

Строі як частка традыцыйнай культуры, тлумачаць яны – гэта не проста расшытыя рукадзельніцамі прыгожыя кашулі, хусткі ды фартушкі, але моцны інструмент самаідэнтыфікацыі і антыкаланіяльнага супраціву: "Адказ на шматвяковую гвалтоўную русіфікацыю і вынішчэнне родных культур у рэгіёне гістарычным і сучасным расійскім імперыялізмам. Ва ўсходнеславянскіх мовах "воля" азначае "свабода", і гэта якраз тое, да чаго мы імкнемся".

– Канешне, музей – гэта планы на будучыню, пакуль гэта толькі прапазіцыя, бо дагрукацца да музейшчыкаў досыць цяжка. А пакуль я раблю тое, што магу, каб прыцягваць увагу да беларускага пытання і каб пра Беларусь ведалі не толькі як пра расійскага суагрэсара.

З таго, што ўжо атрымалася рэалізаваць – дабрачынны вечар з модным паказам, сродкі ад якога скіравалі на дапамогу бежанцаў з Украіны. Яго зладзілі знаёмыя Волі, а яна адшукала ў сваіх калекцыйных куфрах некалькі ўбораў.

Першыя з іх, успамінае, аказаліся ў яе амаль выпадкова – ніяк не атрымлівалася знайсці спадніцу для беларускага брагінскага строю, затое трапіўся на вочы чарнігаўскі – і гэтыя камплекты былі вельмі падобныя.




Антось і Даша Слабада ў кобрынскіх строях.

– Звычайна ў знаўцаў этнічныя строі каштуюць вельмі нямала, часам як крыло самалёта, а тут пашанцавала, што ўсё было ў добрым стане і за адэкватныя грошы. Замовіла некалькі памежных строяў, якіх не хапала ў беларускай калекцыі. Назбіралася два поўныя камплекты, кіеўскі і чарнігаўскі.

Пабачыла, што дзяўчаты-валанцёркі з фонду, які збірае грошы на ваду, ежу, медыкаменты для ўцекачоў і тых, хто жыве ў прыфрантавых раёнах, і вырашылі зладзіць дабрачынны вечар да Дня вышыванкі. А паколькі гэта мае сяброўкі, прапанавала ім гатовыя строі, потым яшчэ сяброўка папрасіла, я пакорпалася – і назбірала праз свае каналы рэчаў яшчэ на тры ўкраінскія строі.

Карацей, той дабрачынны вечар у выніку атрымаўся, і аўкцыён зладзілі – усё разляцелася, уключаючы нашу выцінанку, сабралі, здаецца, 38 тысяч даляраў. А зараз дамовіліся, што я дарамантую і даводжу да ладу калекцыю ўкраінскіх строяў, а дзяўчаты акурат паспрабуюць прапіхнуць яе ў музей.

## Не з падтрымкай дзяржавы, а насуперак

Літаральна некалькі год таму Дзень вышыванкі шырока адзначаўся і ў Беларусі – каларытныя святы з моднымі паказамі і замежнымі пасламі ў беларускіх строях ладзіў МЗС, а міністр Макей заяўляў, што вышыванку трэба насіць часцей . Але з 2020-га адліга змянілася рэпрэсіямі, "няправільную" беларускасць і краіны з нацыянальнай сімволікай пачалі зачышчаць, а свята фармалізавалі, заідэалагізавалі і падмялі пад сябе БРСМ. Сёння ў краіне чырвоны арнамент на белым – лічы, пікет.

Пытаюся ў Волі, ці адувае цяжар адказнасці за тое, каб захаваць гэтую частку беларускай культуры.

– Шчыра кажучы, я раблю гэта таму, што не магу не рабіць, – усміхаецца яна. – Бо разумею, што ў такім фармаце ў цяперашняй Беларусі гэта проста немагчыма.

Уявіце: у сталіцы краіны няма не тое што нармальнага музею строяў, але і музею народна-прыкладнога мастацтва. Ёсць Раўбічы, там у філіяле мастацкага музею выстаўляюцца вельмі прыгожыя ўзоры народных рамёстваў, у тым ліку сялянскія гарнітуры. Але ў сталіцы – нуль.

І дзе ўбачыць, дзе паглядзець гэта багацце і разнастайнасць традыцыйнага касцюма, калі нават альбом "Беларускае народнае адзенне" Раманюка быў выдадзены ў 1981-м і застаўся ў асобных знаўцаў?

Па шчырасці, гэта мая мара – каб у Менску з'явіўся музей нацыянальнага строя. Не закрытая для шырокай публікі калекцыя, як у Акадэміі навук, не чатыры экспанаты на ўвесь гістарычны (прыгадаем, з музею днямі прыбралі постаці Ягайлы і Вітаўта разам са шляхецкімі ўборамі – пасля скаргі, "што тут робяць польскія акупанты" – С.). У ідэале – каб у кожнай беларускі быў свой строй, ці хаця б свая вышываная кашуля. Хай нават нязграбнае, ды беларускае, а не какошнік і "во поле берёзка стояла".

Але зараз умельцаў, народных майстроў не тое, што няма: яны ёсць тут, тут і тут, на краіну ў 9,5 мільёнаў чалавек вельмі мала. Я калі працую з украінскімі строямі, плакаць хочацца, бо ў іх у кожным раёне ёсць нейкі цэнтр адраджэння спадчыны, да іх можна звярнуцца і яны пракансультуюць, дзе замовіць сабе камплект.

У Беларусі ж гэта альбо крамы, якія не грэбуюць машыннай вышыўкай і досыць дзіўна ўяўляюць сабе народныя строі, альбо кропкава шукаць нешматлікіх майстроў, якія табе дапамогуць. Прычым усё гэта робіцца не з падтрымкай дзяржавы, а насуперак.

Як паказалі ранейшыя дні вышыванкі, калі гэта не прыціскаецца, яно квітнее – бо ўсё натуральнае развіваецца само, не трэба толькі перашкаджаць. А пакуль – робім, што можам, каб захаваць сваё. Канешне, з тыражом у 300 асобнікаў наш альбом не ўратуе сітуацыю. Але гэта адна з крупінак у справе, і нават 300 крупінак – лепш, чым нуль.

P.S. Воля Дземка працягвае збіраць і аднаўляць калекцыю этнічных – цяпер ужо і беларускіх, і ўкраінскіх – строяў, дзеліцца сваімі здабыткамі з народнымі майстрамі і кіраўнікамі дзіцячых гурткоў, а цяпер яшчэ прымае ў сябе ўцекачоў з Украіны.

Вось тут можна віртуальна пагартаць альбом беларускіх строяў і замовіць яго ў папяровым ці электронным фармаце, а тут – падтрымаць саму Волю.

**Вікторыя Пракаповіч, "Салідарнасць"**

школа

# ШКОЛА БЕЛАРУСКАЙ ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ВАРШАВЕ: ЯК ЗАХАВАЦЬ АДМЕТНАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ

Гуляючы па польскай сталіцы, часам можна пачуць беларускія традыцыйныя спевы. Гэта дзяўчаты са Школы беларускай традыцыйнай культуры ў Варшаве. Яны таксама арганізуюць заняткі і вечарыны для ўсіх ахвотных. Мы распыталі дзяўчат і вучняў Школы, навошта ім гэта трэба і што даюць такія заняткі.



Танцы ў Музеі Вольнай Беларусі

Стары горад Варшавы. Вечар. Шмат турыстаў. Над старуўкай разносіцца спеў. Людзі спыняюцца, слухаюць, пакідаюць грошы. Бывае, пытаюцца, на якой мове пяюць. Сярод версій – “нейкая ўсходнеславянская”, “украінская” (найчасцей), “лэмкаўская” (паводле розных навукоўцаў – украінскі дыялект альбо асобная ўсходнеславянская мова). Выканаўцы з гонарам адказваюць, што гэта беларускія традыцыйныя песні. У рэпертуары таксама некалькі ўкраінскіх твораў.

Гэта дзяўчаты са Школы беларускай традыцыйнай культуры ў Варшаве. Яны сустрэліся сёлета на Каляды, падрыхтавалі святочную праграму і не пажадалі развітвацца. Па чацвяргах ладзяць спеўныя заняткі ў Беларускім моладзевым хабе для ўсіх ахвочых, і дзяўчат, і хлопцаў (пачатак у 18.30).

Часам дзяўчаты выбіраюцца спяваць у стары горад. Спыталі іх, навошта яны гэта робяць. Спявачкі адказалі і распавялі крыху пра сябе.

**Ліза Рэут:** Спяваю, таму што магу гэта рабіць і адначасова не магу не рабіць. Я скончыла музычны каледж, потым Універсітэт культуры ў Беларусі, з’яўляюся выкладчыкам харавых народных спеваў. Гэта маё жыццё, ужо столькі год. Працавала ў Доме культуры, у Цэнтры пазашкольнай адукацыі, з дзецьмі, з дарослымі, вучыла іх спяваць.

Збіраюся ў Польшчы паступаць у магістратуру. Па прыездзе ў Варшаву знайшла гурток, які займаецца спевамі. Неяк мы рабілі выступ у Беларускім моладзевым хабе, а пасля вырашылі паспрабаваць спяваць на старуўцы. Канечне, спачатку было страшна, што падыйдуць людзі ў чорным і скажуць: “Ваша мерапрыемства несанкцыянаванае, просьба разысціся!” Але такога не адбылося. Нам сталі дзякаваць і нават кідаць грошы, і нейкі драйв я адчула: тое, што падабаецца мне, аказваецца, падабаецца яшчэ камусьці. Тым больш зараз у Варшаве шмат беларусаў і ўкраінцаў. Падыходзяць, дзякуюць, кажуць, што вельмі прыемна пачуць родную мову, спевы, нават далёка ад радзімы. Кажуць, што ў іх вёсцы таксама спявалі такія песні. Некаторыя блытаюць нас з украінцамі, пытаюцца. Мы кажам, што з Беларусі.



Выступ у варшаўскім старым горадзе

У старым горадзе пяем ад аднаго да чатырох разоў на тыдзень, часцей на выходных, увечары. Звычайна на Рынкавай плошчы ці каля Барбакана.

**Наталка Гапановіч:** Мне падаецца, што беларускія песні вельмі прыгожыя і іх павінны чуць усе. Таму пяем у старым горадзе. Я сама вучу песні і хачу несці іх у народ. Калі мы спяваем на старуўцы, людзі ідуць, і беларусы таксама, чуюць родную мову, прыпыняюцца, разумеюць, што Беларусь тут таксама ёсць. Я лічу, што нашу культуру трэба падтрымліваць любымі спосабамі, і гэта адна з магчымасцей.

Я скончыла музычную школу, спя-

вала і акапэльна, і ў харавой манеры. Апошні час – традыцыйныя спевы, бо адчуваю менавіта ў іх глыбіню нашай культуры, усю гісторыю нашага народа. Гэтых жанчын уяўляеш, як яны жылі раней, аб чым марылі, на што спадзяваліся, да чаго імкнуліся, пра што плакалі і гаравалі. Спевы таксама выпускаюць энергію, якая накапліваецца ў цябе ўнутры. Гэта магчымасць аб'ядноцца і парэлаксаваць разам.

У мяне эканамічная і тэхнічная адукацыя, і пачатковая музычная. У Беларусі я працавала ў сферы эканомікі, а таксама будаўніцтва і праектавання. Пераехала ў Варшаву з Мінска ў пачатку 2021 года. Тут працавала праекціроўшчыкам. Канечне, у эміграцыі трэба інтэгравацца і ў польскае асяроддзе. Але вельмі істотна не губляць свае карані.

**Зарына Шэўка:** Чаму спяваю? Я музыка, мне ёсць што сказаць гэтымі песнямі людзям. Месца, дзе мы пяем, – стары горад XIII–XIV стагоддзяў, і канечне, тут мусіць гучаць музыка тых часоў. Спачатку мы з гуртом Lity Taler, дзе я ўдзельнічаю, гралі на беларускіх дудах палову рэпертуара тых часоў, палову народных танцаў, якія больш асацыююцца з XIX – пачаткам XX стагоддзяў, хаця, канечне, яны значна старажытнейшыя. Але сітуацыя ў свеце пагоршылася, мы доўга не маглі выйсці граць танцы, а вось народныя спевы – гэта іншая гісторыя, поўная болю і вайны, і пакут... Мы з дзяўчатамі пазнаёміліся ў Варшаве і пачалі спяваць, хаваючыся ад усіх, але ў пэўны момант зразумелі, што гэтыя песні зараз – заклік да сумлення, яшчэ адзін званочак для тых, хто жыве звычайным жыццём, для тых, хто не ведае, чаму столькі людзей з'ехала з Беларусі. А такіх досыць шмат, нават сярод украінцаў. Нашы песні – гэта зерне для думкі. Такой цікавасці ад звычайных людзей розных нацыянальнасцей я не чакала.

Дудамі таксама шмат цікавіліся, нават палякі. Хаця ў іх есць свая адметная традыцыя грання на дудзе, тут гэта рэдкі інструмент.

Я па адукацыі архітэктар, малюю. Яшчэ з дзяцінства захапляюся коньмі, але асноўны заробак і занятак зараз – фольк-музыка і спевы. Не так даўно размаўляю па-польску. У гэтым дапамагае падпрацоўка – вучу ездзіць на конях дзетак, з імі не так страшна пачаць гутарыць. Спевамі я пачала займацца ў 2014 годзе, у мінскай школе народных спеваў "Гуда". Я тады ўжо была шчыльна звязаная з гістарычнай інструментальнай музыкай, Сярэднявеччам, і спевы былі для мяне пашырэннем гарызонту. Працэс навучання ідзе і сёння...

Песні і музыка даўніх часоў знікаюць так, як знікалі палацы, замкі і храмы, столькі каштоўнасцей ужо знікла назаўсёды! У савецкія часы наогул з'явілася цэлая плынь аранжыровак і стылю, якая адштурхнула ад спеваў шырокія колы звычайных людзей, навязаў стэрэатыпы, якім мусіць быць народны вакал. Хачу паказаць, што можа быць іначай.

Школа беларускай традыцыйнай культуры ў Варшаве часам арганізуе вечарыны, дзе вучні выступаюць са спевамі, а танчаць пасля кароткага інструктажу нават пачаткоўцы. Звычайна на такія імпрэзы прыходзяць акрамя беларусаў, якіх, канечне, большасць, палякі ды ўкраінцы. Некалькі вучняў Школы і наведвальнікаў арганізаваных ёй імпрэз мы таксама спыталі, чаму яны гэтым цікавяцца.

**Даміян Дада:** У Польшчы я няшмат чуў пра беларускую традыцыйную культуру, а пра танцы – дык наогул нічога. Я люблю танчыць, танчыў таксама традыцыйныя танцы іншых краін. Таму і беларускімі зацікавіўся. Трэба прызнацца, што беларускія танцы мне вельмі спадабаліся.

**Рафал Місьта:** У Польшчы дамінуюць парныя віровыя танцы, у рэвівалі (rewiwal – асяродак людзей, які адраджаюць традыцыйную культуру – рэд.) танцавальныя гульні ці фігурныя танцы не вельмі папулярныя. Разам з тым здаецца, што раней (не 100, а, можа, 200 год таму) польскія танцы маглі мець менш віровы і больш фігурны характар. З гэтага пункту гледжання знаёмства з беларускімі танцамі, асабліва з разнастайнымі аздобнікамі, імправізацыямі, варыянтамі выканання асобных крокаў, цікавае, калі хочаш развіць сваю інтуіцыю адносна таго, як маглі б выглядаць больш архаічныя формы польскіх танцаў.

Цікавасць да беларускіх танцаў мае і іншае, геапалітычнае вымярэнне. Калісьці навукоўцы і танцоры шукалі сувязі паміж польскімі і шведскімі танцамі, прыглядаліся да вопыту венгерскага рэвівалю. А культура беларусаў, аднаго з самых шматлікіх народаў былой Рэчы Паспалітай, неяк абміналася. Я лічу, праз сваю гістарычную і геаграфічную блізкасць беларускія танцы павінны быць больш вядомымі палякам.

Мне вельмі падабаецца гучанне беларускай дуды. Шкадую толькі, што яе рэдка можна пачуць у больш "сырым", традыцыйным варыянце, а часцей у псеўдасярэднявечным ці фолькавым стылі ("folkowy", асучаснены ці стылізаваны від традыцыйнай музыкі супрацьпастаўляецца "in crudo" – "сырому", без апрацовак, пурыстычнаму, такому, які гучаў у вёсцы – рэд.). Спадзяюся, чым больш будзе беларускі рэвівал (чаго я жадаю), тым больш будзе ў ім плыняў, у тым ліку пурыстычных.

**Сяржук Герасімовіч:** У Школе беларускай традыцыйнай культуры ў Варшаве я апынуўся невыпадкова. З дзяцінства цікавіўся спевамі. Мае бабулі з вёскі Азярніца Слонімскага раёна спявалі. Пасля цікаўнасць толькі ўзрастала. У студэнцкія гады пазнаёміўся з музыкай Таццянай Грыневіч-Матафонавай, таксама стаў наведваць танцавальныя вечарыны на Карчы (знакамітая пляцоўка для народных і сярэднявечных танцаў у Менску), імкнуўся не прапускаць увогуле. Таксама ў студэнцкія гады сфера навуковых інтарэсаў была звязаная з беларускай традыцыйнай культурай: удзельнічаў у экспедыцыях этнагістарычнага таварыства "Явар". Пабываў у 90 са 118 раёнаў Беларусі, даведаўся пра цікавы свет аўтэнтычнай беларускай культуры, гэта толькі ўмацавала маю цікавасць. Пачаў слухаць этніку і фольк-музыку, даведаўся пра гурты, якія спявалі беларускія традыцыйныя песні.

Таму калі апынуўся ў Варшаве, вырашыў абавязкова наведваць імпрэзы, звязаныя з беларускай аўтэнтычнай культурай. Калі пачуў пра Школу, то вырашыў туды прыйсці, бываю на занятках і па спевах, і па танцах. Вельмі добра, што такі асяродак ёсць у Варшаве. Я лічу, што пакуль традыцыйная культура жывая, то жывыя і беларусы як спецыфічная і вельмі цікавая нацыя, як такі этнакультурны феномен. Думаю, што мы і тут, у Варшаве, здолеем сваю адметнасць захаваць.

Алена Ляшкевіч, budzma.org



# АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ВАРШАВЕ

4 ліпеня беларусы спевамі і танцамі адкрылі Тыдзень Беларускай Культуры ў Варшаве.

На плошчы Канстытуцыі 6 сабралася шмат людзей, сярод якіх быў Артур Міхальскі – амбасадар Польшчы ў Беларусі.

У рамках мерапрыемства выступілі гурты 23:34 Music Band, Javaryna, а таксама дзіцячая танцавальная група Javaryna KIDS. Warszawa.

Усе ахвочыя маглі навучыцца танцаваць народныя танцы "Ойра-ойра" і іншыя.

Кіраўнік Беларускага Моладзевага Хаба Алесь Лапко нагадаў беларусам пра важную ролю культуры, як моцнага чынніка свядомасці і яднання, а таксама, як шмат добрага беларусы могуць зрабіць разам.

budzma.org

**кнігі**

# “ГАСПАДЫНЯ ВОСЕНЬСКАГА ДОМУ” – З ДРУКУ ВЫЙШЛА НОВАЯ КНІГА ТАЦЦЯНЫ САПАЧ

На старонцы Facebook Сяргея Дубаўца з’явілася інфармацыя пра выхад гэтай кнігі да 60-гадовага юбілею паэткі.

Кніга стала поўным зборам твораў Таццяны Сапач, якая трагічна загінула ў 2010 годзе. Час і месца прэзентацыі пакуль невядомыя.

Таццяна Сапач нарадзілася 26 жніўня 1962 года ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна. Скончыла Маркаўскую сярэднюю школу і факультэт журналістыкі БДУ. Паэтка, журналістка, перакладчыца.

Жыла і працавала ў Брэсце і Гомелі. У 1987 годзе пераехала з сям’ёй у Маладзечна, дзе жыла да 1990 года. З 1990 года – у Вільні. Заснавальнік і аўтар культуралагічнай праграмы “Альбаросіка” на Беларускім радыё (1987–1989). Супрацоўнік радыёстанцыі “Балтыйскія хвалі” (2000–2001). Адна з аўтараў перадачы “Палітычная геаграфія”, удзельнік праекта “Начная чытанка” (2007).

Працавала на Літоўскім нацыянальным тэлебачанні, дзе вяла беларускамоўную перадачу “Віленскі сшытак” з 1991 года. Аўтарка літаратурных перакладаў з літоўскай і польскай мовы. Аўтарка зборнікаў вершаў “Восень” (1991), “Няхай пакіне нас восень” (2008), “Раннія вершы: факсімільнае выданне” (2014).

**budzma.org**




# “САРМАТЫЯ” МАРЫІ МАРТЫСЕВІЧ ВЫЙШЛА ПА-ПОЛЬСКУ

У польскім выдавецтве Pogranicze, у білінгвальнай серыі Inicjal выйшла кніга Марыі Мартысевіч “Сарматыя” (пераклад на польскую Багдана Задуры).

“Наклад кнігі 400 асобнікаў і ў кожны будзе ўшыты арыгінальны лінорыт Веслава Шумінскага – фатографа, графіка, краязнаўцы, захавальніка культурнай спадчыны з Сэйнаў. Адбітак гравюры – чалавек, які скурчыўся нібы ў страху – на вокладцы. Два дні спрачаемся, што азначаюць складзеныя рукі”, – напісала Марыя Мртысевіч на сваёй стронцы ў фэйсбуку.

У эпісталярнай паэме Марыі Мартысевіч апісваецца гісторыя кахання, якая мела месца невядома калі і невядома дзе. “Сарматыя” – гэта таксама гісторыя пра тое, што звычайна здараецца з людзьмі, якія наважыліся быць не такімі, як усе, у любыя часы і ў любой краіне.

“Сарматыя” была абраная “Кнігай году” ў 2018-м, атрымала Прэмію імя Наталлі Арсенневай у 2019-м.

**Паводле @PENBelarus**




# У КІЕВЕ НАЗАВУЦЬ ТРЫ ВУЛІЦЫ Ў ГОНАР ВЫБІТНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Экспертная камісія па новых назвах вуліц зрабіла такі выбар падчас працэсу дэрусіфікацыі і дэкамунізацыі кіеўскіх вуліц.

Вуліцай Кастуся Каліноўскага стане былая Астраханська, у памяць аб Францыску Скарыну пераназавуць вуліцу Брестську, у гонар Уладзіміра Караткевіча будзе пераназвана вуліца Добролюбова.

**budzma.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2022 года

**1 жніўня**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Янка Ролсан (сапр. Гадзіцкі), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Памёр у 1994-м.

**4 жніўня**
- 110 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Янка Брыль, пісьменнік. Памёр у 2006-м.
- 80 гадоў таму, у 1947-м, нарадзіўся Мікола Селяшчук, мастак. Заггінуў у 1996-м.

**6 жніўня**
- 505 гадоў таму, у 1517-м, Францыск Скарына выдаў першую беларускую і ўсходнеславянскую друкаваную кнігу.
- 145 гадоў таму, у 1877-м, памёр Іван Насовіч, мовазнавец, этнограф.

**7 жніўня**
- 185 гадоў таму, у 1837-м, нарадзіўся Баляслаў Калышка, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Павешаны ў 1863-м.

**8 жніўня**
- 45 гадоў таму, у 1977-м, памёр Леў Гарошка, уніяцкі рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Францыі, Вялікабрытаніі і Ватыкане.

**11 жніўня**
- 895 гадоў таму, у 1127-м, першае ўпамінанне пра Гародню.

**12 жніўня**
- 145 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Тодар (Хведар) Данілюк, адзін са стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Памёр у 1960-м.

**14 жніўня**
- 180 гадоў таму, у 1842-м, нарадзіўся Уладзімір Кавалеўскі, прыродазнаўца. Памёр у 1883-м.

**15 жніўня**
- 50 гадоў таму, у 1972-м, забіты Лявон Баразна, мастак.

**17 жніўня**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Васіль Каваль (сапр. Васіль Кавалёў), пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.

**18 жніўня**
- 80 гадоў таму, у 1942-м, памёр Лявон Більдзюкевіч, матэматык.

**19 жніўня**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Барыс Мікуліч, пісьменнік. Памёр у 1954-м.

**23 жніўня**
- 175 гадоў таму, у 1847-м, памёр Ян Чачот, паэт, фальклярыст.
- 105 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Пімен Панчанка, паэт. Памёр у 1995-м.
- 35 гадоў таму, у 1987-м, памёр Міхась Стральцоў, пісьменнік.

**27 жніўня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны беларускія археолагі Аляксандр Каваленя, Аляксандр Ляўданскі, Сяргей Дубінскі, Антон Рынейскі.

**Беларусы ў свеце**
№ 7 (242), ліпень 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com